ГОД VII ТРАВЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 1953 г. № 54

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

---

### ЗЬМЕСТ



**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VII. № 54. Mai-Juin 1953

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI^e

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1953 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo 95, rue de Sèvres,
PARIS VI[e].

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:
Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981.
4, de Junio, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:

Mr. Jackievicz Donat, 60 Fisher Str.
East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:

Mr. Borysevic Vasil, 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2-ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2000 фр. — 2 ф.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» І ФОНД «ДОБРАЕ КНІЖКІ»**

Апошнім часам прыслалі (сумы паданы ў францускіх франках):

Г. М. 3.448, Гладкі Я. 800, Данілевіч Б. 400, Дударэвіч С. 300, Дунец У. (ад групы Клеўэлянд) 2.759, Елешэвіч П. 100, Кукіян А. 350, Кунцэвіч М. 800, Пітушка Я. 800, Стома В. 400, а. У. Т. 350, Цыбульскі Э. 100, Шчарбук Я. 350, Юрлевіч Э. 100, Яцкевіч Д. (ад групы Аўстралія) 2.940.

# З беларускае народнае мудрасьці

Дабро помніцца менш чым зло.
Дабро пушыць, а ліха тончыць.
Да дваццаці гадоў ня вырас, да трыццаці ня ўмён, да сарака калі не жанаты, а да 50 не багаты — то нічога ад яго не чакай, так і памрэ.
Дай, Божа, госьця і гаспадар пажывіцца.
Дай, Божа, даваць а не прасіць.
Дай, Божа, заўсёды сьмяяцца, а ніколі плакаць.
Дай, Божа, людзям, то і мы дабудзем.
Дай, Божа, на сваёй лаўцы ўмерці.
Дай, Божа, усё ўмець, да ня ўсё рабіць.
«Дай!» і чуткі ня чуе, а «на!» і глухі пачуе.
Дай на тры дні, возьмеш злыдні. Аб пазыках.
Дай ня ўбогаму, а патрабуючаму.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VII. ТРАВЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ № 54.

# Справа салідарнасьці

Адным з вельмі важных дзейнікаў у штодзенным жыцьці ёсьць салідарнасьць. Гаворыцца і пішацца аб салідарнасьці даволі часта пры розных нагодах, як аб нечым агульнаведамым і самазразумелым, але ў сапраўднасьці рэч маецца зусім іначай, дзеля гэтага варта прыглянуцца да салідарнасьці ўважней і зьвярнуць увагу на сутнасьць справы.

Што-ж гэта такое салідарнасьць? Гэта асаблівая цнота грамадзкага жыцьця, якая фармуе адносіны адзінкі да агулу і агулу да адзінкі паводля нормы: усе за аднаго і адзін за ўсіх. Салідарна могуць разьмяркоўвацца абавязкі, абцяжаньні супольнага жыцьця і салідарна дзяліцца здабыткамі і асягненьнямі так аднаго сябры, як і цэлае грамады.

Дзеля таго, каб салідарнасьць магла стацца багаславенствам для людзей, яна мусіць апірацца на высокім ідэале, мець добрую мэту — інакш яна можа стацца крыніцаю няшчасьця і цярпеньня для грамадзтва. Ведама, што салідарнасьцю кіруюцца ня толькі сябры дабрадзейных установаў, але так-жа банды зладзеяў і шайкі разбойнікаў. Вось-жа ясна, што салідарнасьць гэта такое «аружжа», якое можа служыць і для дабра і для зла. Да чаго чалавек будзе яго ўжываць залежыць ад узгадаваньня і тут на першы плян выступае значэньне рэлігіі. У людзей, якія ня маюць маральнасьці, для якіх паняцьці дабра і зла або зусім ня існуюць, або ёсьць толькі чымсьці ўмоўным, для якіх няма граху, якія ня прызнаюць Найвышэйшага Судзьдзі, што калісь будзе за добрае нагароджваць, а за зло караць — салідарнасьць у гэткіх людзей можа быць больш небясьпечнаю, чым брытва у руках дзіцяці.

Для выпрацаваньня салідарнасьці як цноты навука Каталіцкае Царквы мае першараднае значэньне. Асабліва важным для зразуменьня неабходнасьці салідарнасьці ёсьць сьведамасьць, што ўсе людзі твораць містычнае цела Хрыста і калі цярпіць адзін член гэтага вялікага Хрыстовага Цела, дык тым самым цярпіць усё Цела. Да таго ўсе вернікі твораць адну аграмадную сям'ю, маючы супольнага Айца ў небе. Узаемаадносіны ў гэтай сям'і павінны асноўвацца не на прымусе, не на страху, а на любові паводля Божага прыказаньня: Любі бліжняга твайго, як самога сябе; а гэта ня што іншае, як самая шчырая салідарнасьць.

Самазразумела, што аб значэньні рэлігійных матываў у выпрацаваньні салідарнасьці гаворыцца пад тою ўмоваю, што рэлігійныя прыказаньні ня толькі запісаны ў катэхізмах, але выконваюцца ў штодзенным жыцьці. Бо-ж як найлепшы лек не паможа хвораму, калі ён ім ня будзе карыстацца, падобна і найбольш дабрадзейныя рэлігійныя нормы, ня выявяць свайго дабрадзейнага ўплыву, калі ня будуць выконвацца.

Так як кожная цнота, падобна і салідарнасьць вымагае некаторага часу для ўспрыняцьця. Калісьці на Беларусі як узор для прыкладу паказвалі на салідарнасьць жыдоў. І праўда, у іх часта можна было бачыць падзівугодную салідарнасьць, але яна ў іх ня ёсьць чымсьці ўроджаным, а вынікам вяковага ўзгадаваньня, абаснованага на Бібліі і Талмудзе (тлумачэньне да Біблії Ст. Запавету). У іх аб салідарнасьці прыгадвалася на кожным кроку і ў дзеяньні і ў малітве. Напрыклад на Судны Дзень рабін зьвяртаўся да Бога такімі словамі: «Божа, дай, каб я не саромеўся за мой народ, а народ не саромеўся за мяне...» Уплыў такога ўзгадаваньня на сьведамасьць ставаўся ўсюды відавочны.

У народаў, якія жывуць дзяржаўным жыцьцём адказныя дзяржаўныя і грамадзкія дзеячы ня лішне турбуюцца аб выпрацаваньні салідарнасьці, бо ў іх адсутнасьць салідарнасьці да пэўнае ступені замяняецца дзяржаўным апаратам. Тады нават такія сьмяротныя ворагі салідарнасьці, як: вузкі эгаізм і хваравітая партыйнасьць ня так адчувальныя ў грамадзкім жыцьці, як гэта дзеецца ў народаў недзяржаўных і ў тых галінах жыцьця, дзе волю чалавека не акелзвае нічога іншага, як толькі сумленьне

Найаснаўнейшым мамэнтам для выпрацаваньня салідарнасьці ёсьць усьведамленьне, што яна неабходная для ўсіх. Хочам мы гэтага, ці не, але сьвет з Божае волі так уладжаны, што за злочыны адзінак цярпяць часам цэлыя народы, і наадварот асягненьнямі і добрымі здабыткамі адзінак ка-

рыстаюцца ўсе людзі. Калі нядаўна англец у таварыстве новазэляндца ўзыйшоў на найвышэйшую гору ў сьвеце, на Эвэрэст, англьцы гэты ўчынак расхвалілі, як асягненьне ўсяго народу і зусім слушна ганарацца ім. Некатарыя думаюць, што гэта толькі добрыя, ці дрэнныя ўчынкі высокапастаўленых людзей маюць уплыў на грамадзтва — гэта зусім памылковая думка, бо-ж агульна ведама, што ўчынкі нават найзвычайнейшага сьмяротніка заўсёды маюць нейкае рэха прынамся ў тым асяродзьдзі, дзе ён жыве, але межаў для ўплыву ніхто ня можа азначыць, аб гэтым і прыказку зложылі «Добрае чуваць далёка, а ліхое яшчэ далей».

Бязумоўна, калі-б салідарнасьць прыносіла для паасобнага чалавека толькі карысьць, дык-бы ня трэба было аб ёй пісаць і гаварыць, бо яна была-б агульна практыкаванаю, але ўся справа ў тым, што салідарнасьць вымагае так-жа ахвяраў і тут ёсьць тое слабое мейсца, якое павінна выясьніць узгадаваньне. Але хто-ж пакліканы да ўзгадаваньня, да выпрацаваньня салідарнасьці? Бязумоўна усе, бо гэта справа, якая датычыць усіх. Аднак трэба падчыркнуць, што выпрацаваньне гэта дзеяньне, а ня пустая гутарка. Больш таго, калі нехта сам ня выказваючы ў сваіх паводзінах найменшае салідарнасьці ў жыцьці, пачне іншым казаць казаньні аб гэтай вялікай цноце, дык толькі зьнеахвоціць да яе. Прыкладаў да гэтага можна знайсьці нязьлічаную колькасьць на кожным кроку. Пару гадоў таму розныя адзінкі спаміж беларускае эміграцыі, якія сварацца з усімі і за ўсё, былі раптам, як па змове, пачалі выдаваць розныя заклікі «да згоды», «да паеднаньня» — і які быў вынік? Яшчэ горшае разьбіцьцё і горшыя сваркі. Да каго-як-да каго, але да тых, што гавораць аб салідарнасьці адносіцца вымога: лекару, вылеч перш самога сябе!

Салідарнасьць выяўляецца не на словах, а на ўчынках, дык і да яе выпрацаваньня патрэбны ў першую чаргу прыклады на дзеле. Больш яшчэ: прыклады не для паказу, не для людзкога вока, але дзеяньне ўсюды і заўсёды ў духу салідарнасьці, не зважаючы на тое, бачыць хто гэтае дзеяньне, ці ня бачыць. Калі хто сапраўды хоча прычыніцца да ўмацаваньня салідарнасьці ў радох беларускае эміграцыі і ва ўсім беларускім народзе, а такім павінен быць кожны сьведамы беларус, дык хай пачне ўмацоўваць цноту салідарнасьці ў сабе самым, тады бяз лішніх слоў зробіць вельмі шмат, для агульнага дабра.

**Л. Тр—і**

# НАВУКА І РЭЛІГІЯ

Пытаньне адносінаў між навукай і рэлігіяй ёсьць адным з важнейшых пытаньняў разумовага і духовага жыцьця чалавека, дык ня дзіва, што яно прыцягвала і прыцягвае да сябе ўвагу самых шырокіх і самых розных кругоў грамадзянства. Гэтае зацікаўленьне калісьці недаверкі стараліся выкарыстаць для свае прапаганды і тое-ж робяць да сёньне за зялезнаю заслонаю, вынайходзячы розныя супярэчнасьці між некаторымі навуковымі адкрыцьцямі і праўдамі веры, ды разьдзьмухваючы іх да неймаверных разьмераў. Пры гэтым самае паняцьце «навука» яны стараюцца ператварыць у нейкага бажка, які ўжо мае разьвязкі да ўсіх загадкаў сусьвету і вырашыў ўсе жыцьцёвыя пытаньні, не пакідаючы нідзе мейсца для рэлігіі.

Праўда, такое «пачэснае» заданьне недаверкі пачалі ўскладаць на навуку толькі ў мінулым стагодзьдзі. Яшчэ ў 1872 р. на міжнародным кангрэсе прыродаведаў у Ляйпцыгу нямецкі фізыялёг Э. Дю-Буа-Раймонд (1818-1896) хоць і быў прыхільнікам матэрыялізму, але меў шчырасьць заявіць, што ёсьць сем загадкаў сусьвету, адносна якіх вучоныя ня ведаюць і ня будуць ведаць ніколі разьвязкаў. Але праз пару гадоў у Амэрыцы Дрэпэр публікуе кніжку, у якой на навуку ўскладаецца неабмежаваная надзея і скіроўваецца яе спэцыяльна супраць рэлігіі (1). А праз пару дзесяткаў гадоў нямецкі прыродавед Эрнэст Гэкель (1834-1919) у кнізе «Загадкі сусьвету» (1898 г.) з напышанаю пырдасьцю заяўляе, што навука ўжо знайшла разьвязкі да ўсіх загадкаў сусьвету. Праўда хутка выявілася, што ў ягоных «разьвязках» няма сапраўднае навуковае вартасьці, горш таго, у доказах адносна паходжаньня чалавека Гэкэль сьведама сфальшаваў некаторыя ілюстрацыі, на якіх асноўнаў свае доказы і потым мусіў публічна празнацца да гэтага круцельства, аднак у сваёй супрацьрэлігійнай зацятасьці сваіх паглядаў не адклікаў, а ворагі рэлігіі, якія яго падтрымоўвалі, прабачылі яму ўсе круцельствы, бо ўяўлялі, што ён здолеў упрагчы навуку ў аглоблі бязбожнага возу. У сапраўднасьці нават і ў той гэкэлеўскі час толькі дробная частка навукоўцаў і да таго навукоўцаў невялікае вартасьці была прыняла пагляд, што між навукаю і рэлігіяю ёсьць супярэчнасьці. а найбольшая вучоныя заусёды аставаліся веруючымі людзьмі. З гэтага гледзішча вартыя ўвагі досьледы д-ра Дэннэрта і айцоў Кнэльлера і Эйміе. Д-р Дэннэрт, дасьле-

1) **Draper J. W. — Conflict of Science and Religion. New-York, 1875.**

дуючы рэлігійныя перакананьні перадавых вучоных ад XV да канца XIX ст., на агульны лік 367 вучонных сьцьвердзіў, што толькі 2% з іх адкідалі веру ў Бога, 3% былі індыфэрэнтнымі, а 95% прызнавалі існаваньне Бога (2). Адносна XIX ст. ён сьцьвярджае, што на 283 вучоных ня змог выявіць рэлігійных паглядаў адносна 48 чалавек (16,8%), недаверкаў было ўсяго 7 (2,5%), індыфэрэнтнымі 8 (3,9%), а рэшта 220 (77,7%) былі веруючымі. Да падобных, але больш дакладных высноўкаў дайшоў а. Кнэльлер, падаючы сьведчаньні самых вучоных. (3). Ангелійскі дасьледнік Табрум перад першаю сусьветнаю вайною апублікаваў дакумантальную кнігу «Рэлігійныя вераваньні сучасных вучоных», у ёй аўтар сьцьвярджае, што на 133 вучоных 118 верылі ў Бога. Яшчэ больш дакладна дасьледаваў гэтае пытаньне а. Эйміе. Ён у двохтомнай кніжцы падае весткі аб 432 вучоных з XIX ст.: з іх адносна 34 (8,0%) не знайшоў сьведчаньняў аб рэлігійных паглядах, 15 (3,4%) былі абыякавымі і агностыкамі, 16 (3,7) — бязбожнікамі, а 367 (85,0%) былі веруючымі (4). (Частковыя сьпісы веруючых вучоных ужо падаваліся на старонках «Божым шляхам»: у Нр. 5-6 паданы сьпіс веруючых астраномаў, у Нр. 35-36 — сьпіс веруючых фізыкаў, у гэтым нумары ёсьць сьпіс веруючых геалёгаў).

Час ішоў, навука здабывала ўсё новыя асягненьні, і паводле цьверджаньня калішніх бязбожнікаў, лік няверуючых вучоных мусіў-бы ўзрастаць, а лік загадак сусьвету зусім зьнікнуць. Тымчасам сталася зусім наадварот. Цяпер у вольным сьвеце лік вучоных недаверкаў калі ня роўны нулю, дык блізкі каля гэтага, а што да загадак сусьвету, гэта значыць нявыясьненых навукаю пытаньняў, дык іх лік усьцяж павольшваецца. Нядаўна Рэне Сюдр апублікаваў цікавую кніжку аб сучасным стане навукі і назваў яе «Новыя загадкі сусьвету» (5). У ёй аўтар падае такое мноства новых нявыясьненых навукаю пытаньняў, што нават не стараецца іх нумараваць. Адначасна можна сьцьвердзіць іншы, вельмі вымоўны факт; у вольным сьвеце ўжо амаль ня чуваць паважных галасоў аб супярэчнасьцях між навукаю і рэлігіяй. Больш таго, апошнім часам зьявіліся кнігі, у якіх існаваньне Бога даказваецца амаль выключна з асягненьняў сьвецкае навукі (6).

Тут пад словам рэлігія трэба разумець ўсё тое, што лучыць чалавека з Богам, а гэтая лучнасьць апіраецца на аб'яўленьні, даным чалавеку самым Богам, Які ані ня хоча, ані ня можа памыляцца, дзеля гэтага і рэлігійныя праўды веры, якія Каталіцкая Царква падае да агульнага вераваньня, маюць на сабе выразнае таўро Божае непамыльнасьці і сталасьці, а тым самым ня могуць зьмяняцца. Затое навука на працягу вякоў вельмі часта зьмяняла свае плыні.

У зьменьлівасьці навукі няма нічога дзіўнага. Калі рэлігія мае ў сабе азнакі Божае сталасьці, дык навука ёсьць вытварам чыста людзкім і мае на сабе азнакі людзкое абмежаванасьці і памыльнасьці. Што-ж гэта ёсьць навука? Агульна гэтым словам азначаюць усю сукупнасьць веды, якая здабываецца дакладным пазнаньнем рэчаў у іхным прычыновым зьвязку. Але пазнаньне здабываецца разумоваю працаю, а людзкі розум мае абмежаваныя пазнавальныя здольнасьці. Вонкавы сьвет чалавек пазнае галоўным чынам праз змыслы, але людзкія змыслы шмат больш абмежаваныя як розум. Каб ясна ўсьведаміць сабе абмежаванасьць нашых змыслаў, варта прыглянуцца да залучанае тут схэмы электро-магнэтычных хваляў, іх




**Спэктр электро-магнэтычных хваляў у лёгарытмічным маштабе**

Увага: Бачымы сьвет займае толькі I/100.000.000 усіх азначаных тут хваляў.

---

2) D-r Dennert — Die Religion der Naturforscher. Berlin, 1908.

3) Kneller Karl-Alois — Das Christentum und die Vertreter der neueren Naturwissenschaft. Freiburg in Breisgau, 1903.

4) Antonin Eymeu — La part des croyants dans les progrès de la science au XIX siècle. Paris, 1928, t. 2, s. 274.

5) René Sudre — Les nouvelles énigmes de l'univers. Paris, 1951.

6) Pier Carlo Landucci — Esiste Dio? Roma, 1948. John A. O'Brien — Gott lebt. Beweise für die Existenz Gottes. Aschaffenbirg 1950, П. Ковалів — Чудеса науки ї вищій розум. Мюнхен, 1948.

ёсьць аграмадная колькасьць, але нашае вока бачыць з іх толькі дробную частку (бачымы сьвет), а іншыя змыслы дык зусім іх не адчуваюць. Толькі дзякуючы інтуіцыі, фантазіі і розуму чалавек вынайходзіць розныя прылады, каб дасьледаваць той недасяжны для змыслаў сьвет. А надпрыродныя вышыні, да якіх сягае рэлігія, адзьдзелены ад нашых змыслаў бяздоннаю пропасьцю.

Напружваючы ўсе свае пазнавальныя сілы, людзкі розум паволі йдзе наперад,пашырае штораз больш абсяг сваіх пазнаньняў, але таму, што ўсе людзкія пазнавальныя здольнасьці так паасобна, як і разам узятыя ёсьць абмежаваныя, дык ня дзіва, што ў сваім поступе розум робіць нямала памылак. Дзеля гэтага нават і самое выражэньне «навуковыя праўды» трэба разумець не даслоўна, як гэта звычайна робіць публіка, але ў вельмі абмежаваным сэнсе, як гэта слушна заўважвае ведамы вучоны Лекомт-дэ-Нойі (7).

Ня дзіва, што ў тых выпадках, калі навука даходзіць да якіх памылковых выснаўкаў, могуць зьяўляцца повідныя разьбежнасьці між ёю і рэлігіяю, але нават і ў гэтых выпадках прадметам разьбежнасьці стаюцца не рэлігійныя праўды, але тыя навуковыя праўды, якія перш навука ўважала за бяссумніўна праўдзівыя і якія на працягу вякоў прыстасоўваліся да рэлігійнага сьветагляду.

Свае памылкі навука не бярэ моцна да сэрца, наадварот нават існуе прыказка, што на памылках людзі вучацца. У меру пашырэньня кругу свае веды, памылкі выкрываюцца і папраўляюцца. Асабліва шмат навуковых памылак і недакладнасьцяў выяўлена ў сьвятле адкрыцьцяў апошняга стагодзьдзя, але-ж гэтыя адкрыцьці ня ёсьць апошнім словам навукі. Хоць некаторыя паважныя вучоныя і цьвердзяць, што «людзкія пазнавальныя магчымасьці ўжо блізкія сваіх канчатковых межаў» (8), але пераважная большасьць перадавых вучоных зусім слушна спадзяецца яшчэ ад навукі вельмі паважных адкрыцьцяў. Напрыклад нямецкі фізык і сябра Акадэміі Навук Макс фон Ляўэ цьвердзіць, што сучасная фізыка ледва адышла ад свайго юнацтва, падобна выслоўліваецца амэрыканскі біохэмік, і акадэмік Джэмс Сумнэр: «Мы нагдзе пачынаем вучыцца здабываць наш зямны падол». Але як-бы ня былі вялікімі тыя будучыя адкрыцьці, які-б ня быў аграмадны поступ навукі ў будучыні, усё-ж для людзкога абмежаванага розуму astанецца назаўсёды шмат неразгаданых пытаньняў у бесканечным сусьвеце. Сучасны ангельскі матэматык і філёзаф Бэртранд-Артур Руссэль у адной з радыёпрамоваў казаў: «Людзкія магчымасьці ня ёсьць неабмежаваныя; нават найбольшы поступ ня можа даць чалавеку усяўладзтва. Векавое дасьведчаньне вучыць, што раскрываючы адну тайну, навука становіцца перад новымі тайнамі».

Залучаная тут схэма разьвіцьця навукі паказвае даволі ясна як гэта магчыма, што ў меру поступу навукі лік неразгаданых тайнаў усьцяж збольшваецца. Сьвет навукі, пашыраючы што-раз больш поле свае дзейнасьці, тым самым пашырае круг сутыку з далейшым недасьледжаным полем сусьвету. Адзіная толькі багасловія — навука аб рэлігіі — мае адчынены доступ у бесканечнасьць, але і ў гэтым кірунку пазнавальныя здольнасьці людзкога розуму не пераходзяць сваіх магчымасьцяў, гэта на помач слабому людзкому розуму прыходзіць Божае аб'яўленьне, гэта значыць, што з нябесных вышыняў Бог пасылае чалавеку дробны прамень надпрыроднага сьвету і праз гэта навука аб рэлігіі, багасловія, асноўна адрозьніваецца ад чыста сьвецкіх навукаў, якія працярэбліваюць сабе дарогу ўпярод быццам вобмацкам у непраглядны цемры.

З вышэй апісанага прыкладу можна зрабіць яшчэ адзін вельмі важны вынавак: калі хрысьціянская, а дакладней кажучы каталіцкая рэлігія, маючы надпрыродны сьвет, дадзены самым Богам, падае якія рэлігійныя праўды да агульнага вераваньня, як аб'яўленыя Богам, дык яны ёсьць і вечныя, такія як сам Бог, і кожны чалавек можа і павінен успрыняць іх як такія. Інакш маецца справа з навуковымі праўдамі. Адносна іх заўсёды можа аставацца ў чалавека нейкі сумніў, бо яны выяўлены толькі сілаю абмежаванага людзкога розуму, які ад вякоў мыляецца.

Тут увесь час ужываецца слова навука, але ў сапраўднасьці нельга сабе ўявіць навукі без яе прадстаўнікоў — бяз вучоных. Дык адносіны навукі да рэлігіі гэта ня што іншае, як адносіны перадавых вучоных, гэта значыць тых людзей, якія сваімі дасьледамі прычыніліся да пашырэньня і паглыбленьня навукі ў нейкай галіне. Бязумоўна сьведчаньне вучоных мае значэньне адносна тых галінаў веды, у якіх яны зьяўляюцца спэцыялістамі; да вырашэньня рэлігійных справаў яны ня маюць аўтарытэтных даных, але затое яны могуць ясьней за іншых азначыць, якія ёсьць адносіны між рэлігіяй і навукай, якую яны стварылі і вось яны кажуць, што ў меру разьвіцьця навукі лік веруючых вучоных узрастае. Варта яшчэ раз глянуць на схэму разьвіцьця навукі, каб уцяміць, што інакш быць ня можа. Перадавыя вучоныя, якія даходзяць да межаў людзкога пазнаньня, маюць шмат нагодаў у сваім «навуковым падарожжы» ўбачыць сьляды Бога ў прыродзе, а дакранаючыся да таго бесканечнага, недасьледаванага яшчэ сьвету, маюць магчымасьць адчуць беспасрэдна веліч Стварыцеля. Хараша выказаў адносна гэтага сваю думку ангельскі гэніяльны фі-

---

7) Lecomte du Noüy — L'homme et sa destinée. Paris, 1948, s. 28.

8) W. Dampier — Histoire de science et de ses rapports avec la philosophie et la religion. Paris, 1951, s. 562.




**Схэма разьвіцьця навукі.**

Увага: Тут перачысьлены ня ўсе сёньня ведамыя навуковыя дысцыпліны, але гэтага схэма ня мае на мэце; яе заданьнем ёсьць паказаць, як пашыраючы поле досьледаў, збольшваецца круг няведамага.

зык і матэматык Ісаак Ньютон (1643-1728): «Я ня знаю, як я прадстаўляюся сьвету, але я сам сабе выдаюся малым хлапчуком, які забаўляючыся на беразе мора, зьбірае гладзенькія каменьчыкі і прыгожыя ракушкі, тады калі аграмадны акіян праўды глыбока закрыты перад яго вачыма».

Сусьветнае славы францускі біялёг і фізіялёг Люі Пастэр (1822-1895) сваю глыбокую рэлігійнасьць абасноўваў на сваёй вучонасьці: «Якраз таму, што я шмат перадумаў і шмат студыяваў, я стаўся веруючым як брэтонец, а калі-б я больш разважаў і яшчэ больш студыяваў, дык стаўся-б веруючым як брэтонка» (Брэтонія гэта найбольш рэлігійная правінцыя ў Францыі).

Якім чынам глыбейшыя студыі вядуць вучоных да глыбейшае і шчырэйшае рэлігійнасьці вобразна выказаў шкоцкі гісторык Тамаш Карляйль (1785-1881): «Мы гаворым аб кнізе прыроды і гэта сапраўды кніга, якую ўлажыў і напісаў сам Бог. Але каб яе чытаць, ці ведаеш ты, ці хтось іншы з людзей прынамся яе альфабэт? Яе словы, яе сказы, яе велічныя апісаньні, паэтычныя і філязафічныя старонкі зьмешчаныя ў нашай сонечнай сыстэме напісаныя нябеснымі гіерогліфамі. Гэта сапраўды сьвятое пісаньне, якое можа ашчасьлівіць і прарокаў, калі-б яны маглі з яго сям-там прачытаць хоць некалькі радкоў» (9). Гэтыя словы славутага гісторыка вельмі трапна высьвятляюць, што сучасны зварот навукі да рэлігіі ня ёсьць прыпадковым ані пераходным зьявішчам, бо навейшыя вучоныя, навучыўшыся лепш чытаць кнігу прыроды, стаюцца тым самым больш рэлігійнымі.

Гэта пераважна спаміж недавукаў і вельмі вузкіх спэцыялістаў рэкрутаваліся і яшчэ цяпер могуць рэкрутавацца тыя недаверкі, якія сваю бязбожнасьць стараюцца прыкрыць плашчам вучонасьці. Для недавукаў, зразумела не для ўсіх, веліч навуковых асягненьняў можа выдавацца нейкаю недасяжнаю вяршыняю гары, аседкам бажкоў, і яны бадайшто падсьведама пачынаюць бунтавацца супраць яшчэ большае велічы надпрыроднага сьвету. Аб гэткіх людзях гэніяльны францускі матэматык А.-Л. Коші (1789-1857) казаў: «Мала навукі аддаляе ад Бога, шмат навукі — да Яго вядзе». Праўдзівасьць гэтых слоў сёньня больш чым калі можна бачыць на кожным кроку.

У краінах пад дыктатураю камунізму сілаю тэрору стараюцца затрымаць навуку на тым узроўні, на якім яна была семдзесят гадоў таму за часоў Маркса, каб магчы ўтрымаць той матэрыялістычны сьветагляд, які тады быў модны і які лёг у аснову іхняе дзяржаўнае сыстэмы. Але каб адначасна магчы маніць самых сябе і іншых, што яны маюць «перадавую навуку», дык кладуць неімаверны націск на тэхніку. Але людзі, які займаюцца выключна тэхнікай з сапраўднаю сьціслаю навукаю маюць мала што супольнага, затое як слушна сьцьярджае ангельскі матэматык Б. А. Русэль, «хварэюць на мэгалёманію... і ўяляюць сабе, што самі могуць сесьці на пасадзе Усемагутнага». У сапраўднасьці савецкае пяршынство гэта ні больш ні менш, як пяшынство з-заду паводля азначэньня прафэсара Манлея. Ён між іншым кажа так: «Я лічу, што думка аб нясумяшчальнасьці хрысьціянства і навукі можа зьявіцца толькі на грунце грубае і павярхоўнае філязофіі. З майго досьледу я пераканаўся, што адсутнасьць веры ў Божае аб'яўленьне, у сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста Збавіцеля пераважае сярод тых, каго я дазволю сабе назваць абозным арыергардам (самымі апошнімі) пры лягэры навукі, а сярод тых, для каго жывая навуковая праца стварае праўдзівую жыцьцёвую задачу, жыве моцная вера ў Бога». Дык ня дзіва, што ў Савецкім Саюзе, дзе сіламоц затрыманы навуковы поступ, яшчэ і цяпер выдаюцца такія кнігі, якія да нудоты паўтараюць безьзьмястоўныя клічы аб супярэчнасьці між навукаю і рэлігіяю (10).

(Заканчэньне ў наступным нумары).

9) John A. O'Brien, op. cit., s. 68.

10) С. Вальдгард — Наука против религии. Москва, 1952.

# АДНОСІНЫ ГЕАЛЁГАЎ ДА РЕЛІГІІ

Між шматлікіх галінаў сучаснае навукі геалёгія вызначаецца тым, што яе асягненьні параўнаўча менш трапляюць у шырокія кругі грамадзянства. Магчыма дзеля гэтага нават найвызначнейшыя геалёгі мала ведамыя па-за вузкім кругам спэцыялістаў. Тымчасам гаелёгія — гэта адна з цікавейшых навукаў. Займаецца яна будоваю, мінэральным складам, гісторыяю, законамі, а так-жа сучасным станам нашае Зямлі. Калі часам можна пачуць думку, што чалавек мае магчымасьць чытаць кнігу прыроды, дык найлепшую такую магчымасьць маюць геалёгі. Што яны ў той кнізе вычытваюць, хай гавораць самі.

**Дэлюк (Deluc)** Жан-Андрэй (1727-1807) выдатны францускі геалег, быў шчыра веруючым і часта бараніў аб'яўленьня і каталіцызму з багаслоўскага гледзішча супраць пратэстантызму. «Я пераканаsuccessfully, што толькі ў Каталіцкай Царкве можа захавацца аб'яўленьне і што ўсе пратэстанцкія Цэркві вядуць да дэізму. Калі-б я навярнуў якога няшчаснага, дык-бы раіў яму прыняць каталіцызм».

**Кювье** (Cuvier) Жорж (1769-1832) найвызначнейшы француcкі геалёг свайго, часу, быў шчыра веруючым. У сваіх выкладах ён з націскам падчыркваў, што «досьледы бачымае прыроды выяўляюць Стварыцеля». У паясьненьні сьвятога Пісаньня трымаўся даслоўнага тлумачэньня нават больш, як гэтага вымагаецца. Напрыклад гаворачы аб сатварэньні сьвету, ён казаў: «Уявем сабе... як на самым пачатку Стварыцель прыводзіць свае творы перад вачыма першага чалавека і загадвае яму, даць ім назовы».

**Сміт** (Smith) Віліям (1769-1839) аўтар геалягічнае карты Англіі, выданае ў 1815 г. Усе ягоныя творы сьведчаць, што быў веруючым.

**Гумбольд** (Humbold) Фрыдрых-Ал. (1769-1859) нямецкі геалёг і прыродавед. Ён аднойчы казаў: «Канец і вынік усіх досьледаў прыроды такі, што мы змушаны голасна запяяць разам з анёламі пахвальную песьню: Слава на вышынях Богу!».

**Броніяр** (Brongniard) Аляксандар (1770-1847) француcкі геалёг, прыяцель і супрацоўнік Кювье. Ягоныя досьледы былі паважным укладам у пазнаньне зямное кары і ўстанаўленьня «геалягічнага мэтаду». Аб ягонай веры найлепш сьведчыць тое, што быў практыкуючым каталікам.

**Мак-Кулёх** (Mac-Culloch) Джон (1773-1835) англійскі геалёг, што ўлажыў першую геалягічную карту Шкоцыі, быў веруючым.

**Сілімэн** (Siliman) Бэнжамэн (1779-1864) англійскі геалёг. Уступ да свае кнігі «Цуды геалёгіі» закончыў сапраўдным вызнаньнем веры.

**Шубэрт** (Schubert) Ґотхайт-Гэнрык (1780-1860) нямецкі геалёг. Аднойчы ён заявіў: «У цэнтры ўсяго існаваньня ёсьць сонца, што дае падтрыманьне ўсяму і ... ажыўляе ўсё жывое; ёсьць так-жа ў прыродзе гэткае-ж вока, якое зрабіла тое, што сонца сталася сонцам: тым сонцам ёсьць Бог, вокам-жа ёсьць душа».

**Бонар** (Bonard) Аўгуст-Гэнрык (1781-1857) француcкі геалёг. Агульна ведама, што ён быў веруючым.

**Дэ Сэрэ** (De Serres) Пятро-Марсэль (1782-1862) француcкі геалёг. Свае рэлігійныя перакананьні выказаў у кніжцы: «Прынараўленьне касмагоніі Майсея да геалягічных фактаў» — сам назоў кніжкі сьведчыць аб яе зьмесьце.

**Д'Омаліюс д'Алёй** (D'Omalius d'Halloy) Жан (1783-1875) асновапаложнік геалёгіі ў Бэльгіі. На ўрачыстай акадэміі ў 1866 г. меў даклад на тэму: «Адносіны веры і прыродазнаўства», у якім між іншым казаў: «Для нашага духа ёсьць цяжкасьці ўявіць два асноўныя паняцьці: існаваньне ўсемагутнага нематэрыяльнага Бога і творчы акт, але яшчэ цяжэй уцяміць быцьцё зямнога долу і яго дзівугодны парадак, каб перш ня было ўсемагутнае Істоты. І так навука або розум ня могуць мець ніякага супраціву што да прыняцьця абодвых асноўных паняцьцяў».

**Букланд** (Buckland) Вільям (1784-1856) найвызначнейшы між англійскімі геалёгамі. Ведамы яго твор «Геалёгія і мінэралёгія ў іх адносінах да натуральнае тэалёгіі». У прадмове да гэтае кнігі гаворыць, што ягоным заданьнем ёсьць паказаць «вечнасьць і мноства найбольш узьнёслых азнакаў адзінага жывога і праўдзівага Бога». На іншым мейсцы ў тэй-жа кнізе піша: «Зямля аж да найглыбейшых сваіх фундамэнтаў прылучаецца да хору нябесных целаў, якія круцяцца ў бязьмежных прасторах і абвяшчаюць славу і пяюць хвалу Богу, Які іх стварыў».

**Сэджвік** (Sedgwick) Адам (1786-1872) прафэсар геалёгіі ў Кэмбрыджы. Аднойчы ён казаў да студэнтаў: «Усе сілы нашага духа і ўся наша веда згодна йдуць да аднае мэты, каб служыць да шчасьця чалавека і славіць Стварыцеля».

**Бэдан** (Beudant) Францішак (1787-1850) француcкі геалёг. Сваю кнігу «Мінэралёгія і геалёгія» закончыў прыгожым вызнаньнем веры.

**Мэнтэл** (Mantell) Гэдэон (1790-1852) англійскі геалёг. Сваё вызнаньне веры падаў у кнізе «Цуды геалёгіі» 1848 г.

**Бішоф** (Bischof) Карло-Густаў (1792-1970) прафэсар геалёгіі ў Бонн. На сваіх выкладах няраз паўтараў: «На зямлі нічога ня мае ўласнае мэты; усё створана для вышэйшае мэты. Чалавек так-жа толькі дзеля таго тут, каб праславіць Боскасьць і падрыхтавацца да вечнасьці».

**Мурчізон** (Murchison) Родэрык (1792-1871) англійскі геалёг, заўсёды быў рэлігійным.

**Гічкок** (Hitchcok) Эдвард (1793-1864) англійскі геалёг. У 1835 г. ён пісаў: «Геалёгія ня толькі не дае ніякіх матэрыялаў супраць сьв. Пісаньня Майсея, але мне здаецца, дае яшчэ некаторыя аграмадныя азнакі пляну Боства».

**Ляйель** (Lyell) Карло (1797-1875) выдатны англійскі геалёг. Ягоная тэорыя уніфармізму з нявялікімі папраўкамі існуе да сёньня. У сваім творы «Асновы геалёгіі» ён пісаў: «У якім-бы кірунку ня йшлі нашыя досьледы, мы заўсёды знайходзім ясныя доказы праўду, сілы і мудрасьці творчага розуму Бога».

**Дэ Бомон** (De Baumont) Гальяш-Жан (1798-1874) геніяльны француcкі геалёг. Ягоная тэорыя аб гораўтварэньні і азначэньні веку пластоў з некаторымі папраўкамі мае значэньне да сёньня. Быў шчыра веруючым і сваім прыяцялём гаварыў: «Навука вядзе перш чытаць па складох, а пасьля ясна чытаць імя Бога стварыцеля ў дзіўнай кнізе прыроды».

**Мілер** (Miller) Гуго (1802-1857) шкоцкі геалёг і пісьменьнік, быў веруючым, як гэта відаць з ягоных твораў.

**Д'эсалін д-Орбіні** (Dessalines d'Orbigny) Карло (1806-1876) француcкі геалёг. У сваім

творы «Геалёгія ў адносінах да тэхнікі, шахтаў і земляробства» ён пісаў: «Чалавек дзякуючы інтэлігэнцыі, якую ён атрымаў... можа выказваць сваё прызнаньне і любоў да Стварыцеля, няведамыя перад тым».

**Дюмон** (Dumont) **Андрэй** (1809-1857) бэльгійскі геалёг, ведамы аўтараграмадная карты Бэльгіі і суседніх краёў. Аб ім гаварылі: «Дюмон робіць гонар рэлігіі сваею шчырасьцю, а геалёгіі — сваімі адкрыцьцямі».

**Кэнштэд** (Quenstedt) Фрыдрых Аўгуст (1809-1889) нямецкі геалёг. Свае рэлігійныя перакананьні неаднойчы выказваў у сваіх творах. Між іншым ён казаў: «Чым дакладнейшыя дасьледаваньні, тым цямнейшыя стаюцца пачаткі (сусьвету). Сам плян Стварыцеля быццам уцякае з-перад нашых вачэй якраз тады, калі мы стараемся глыбей уцяміць паасобныя яго часткі».

**Гэбэрт** (Hebert) Эдмонт (1812-1890) францускі геалёг і мінэралёг. Характэрызуючы вузкіх спэцыялістаў, казаў: «Навука ... ня толькі выяўляе нам усемагутнасьць і бясканечную дабрату Стварыцеля, але яшчэ тайны, якіх ня могуць выясьніць усе сілы нашага духа... Калі ў нашым грамадзтве ёсьць матэрыялістычныя тэндэнцыі, дык яны апіраюцца на ілюзіях; яны могуць прарастаць толькі ў тых людзей, што цалкам занятыя вузкімі спэцыяльнымі студыямі і забываюцца аб рэшце сьвету».

**Дана** (Dana) Джэмс (1813-1895) выдатны амэрыканскі геалёг і мінэралёг. Яго «Падручнік геалёгіі» напісаны ў рэлігійным духу. Адразу на пачатку аддае чэсьць Богу, Які ўсё кіруе да сваёй мэты і пад Якога кіраўніцтвам Зямля прайходзіць сваю гісторыю.

**Добрэ** (Daubrée) Гаўрыла-Аўгуст (1814-1896) паважны францускі геалёг, які жыў і памёр па-хрысьціянску.

**Гайніц** (Geinitz) Іван-Бруно (1814-1900) нямецкі геалёг, які шмат заслужыўся ў дасьледаваньні геалёгіі Саксоніі. Быў веруючым.

**Дэўсон** (Dawson) Іван-Вільям (1820-1899) плодны канадзкі геалёг і прыродавед. Быў веруючым.

**Рутімаер** (Rutimeyr) Карло-Людовік (1821-1895) швайцарскі геалёг і палеонтолёг, быў веруючым.

**а. Стопані** (Stoppani) Антон (1824-1891) выдатны італьянскі геалёг. На аснове доўгагадовае навуковае працы ўканцы жыцьця з націскам заяўляў: «Розум чалавека і Божае аб'яўленьне імкнуцца да тае самае праўды. А тыя, што хочуць паставіць мур паміж тым у што вераць і тым, што знаюць, не належаць да паважных людзей».

**Рат** (Rath) Гергард (1830-1888) нямецкі геалёг і мінэралёг, напісаў шмат працаў з галіны мінэралёгіі. Быў веруючым.

**Госэле** (Gosselet) Юлі (1832-1916) францускі геалёг, заснавальнік музэю у Ліль. Аб сваіх рэлігійных перакананьнях часта пісаў ў лістох да свайго сябры Боруа.

**Дэ Ляпаран** (De Lapparent) Альбэрт-Аўгуст (1839-1908) шырока ведамы французькі геалёг, быў прэзэсам зьезду каталіцкіх вучоных у Мюнхэне. Аб сьв. Пісаньні казаў: «Калі-б мне трэба было коратка выказаць у якіх чатырох радкох усе асягненьні геалёгіі, дык я-б перапісаў тэкст з кнігі Быцьця ў Біблії; гэта значыць гісторыю стварэньня сьвету, так, як яе напісаў Майсей».

**Ваагэн** (Waagen) Вільгэльм (1841-1901) нямецкі геалёг. Аб ягоных рэлігійных перакананьнях найлепш сьведчыць тое, што ён шчыра ўдзельнічаў у каталіцкім руху і за гэта мусіў цярпець неадну прыкрасьць.

**Лёсэн** (Lossen) Карло-Аўгуст (1841-1893) нямецкі геалёг. Быў верным сынам Каталіцкае Царквы, азначаўся глыбокаю пабожнасьцю і памёр, прыняўшы сьв. Тайны.

**Бэртран** (Bertrand) Марсэль-Аляксандар (1847-1907) францускі геалёг і прэзыдэнт Акадэміі Навук. Быў веруючым.

**а. Моркальлі** (Morcalli) Язэп (1850-1914) плодны італьянскі геалёг і вулканалёг. Аб ягоных рэлігійных перакананьнях кажа ягоны стан — быў сьвятаром.

**Тэрмье** (Termier) Пятро-Марыян (1859-1930) францускі геалёг. Апублікаваў шмат працаў з галіны геалёгіі і філязофіі. Быў веруючым.

**Лемуан** (Lemoine) Паўло сучасны францускі геалёг. Адносна маністычнае тэорыі эвалюцыі, якая мае на мэце паясьняць разьвіцьцё жыцьця бяз узьдзеяньня надпрыроднае Сілы, ён пісаў у 1938 г.: «Тэорыя эвалюцыі знайходзіцца на пярэдадні свайго заняпаду, бо яна сталася быццам нейкаю догмаю, у якую ня вераць самыя сьвятары, але яшчэ яе падтрымоўваюць для народу».

Сабраў **а. Л. Гарошка.**

# У валадарстве маны

**Агульныя ўвагі**

Хрысьціянская навука вымагае ад чалавека шчырае праўдамоўнасьці ва ўсіх дачыненьнях з іншымі. Хрыстос пры розных нагодах навучаў: «Вашае слова хай будзе: «так, так», «не, не», а што больш таго, тое ад злога» (Мат. V, 37), «Пазнайце праўду і праўда вызваліць вас» (Іван. VIII, 32). Аднак людзкая слабасьць вернікаў ча-

ста вышуквала розныя «апраўдваючыя», або «злагодніваючыя» абставіны, каб неяк абыйсьці загад Збавіцеля і для заспакаеньня сумленьня людзі стваралі напоў жартаблівыя, напоў паважныя прыказкі: «Ня прыкраўшы, ня прылгаўшы жыць ня будзеш», або «Лжы, але меру знай». Але якая можа быць мера ў хлусьні? Прабі дзюрку ў караблі і пакінь яе зеўраць, дык раней ці пазьней нават найбольшы карабель затопіцца, а цэлага і непашкоджанага дык найбольшы акіян не захлыне. Падобна і з чалавекам. Доўгія вякі ў прыватным і дзяржаўным жыцьці ў шматлікіх краінах патуралі хлусьні, але ўканцы дайшло да таго, што некаторыя, здавалася-б вялікія дзяржавы раптам зруйнаваліся і на іх руінах зьявіліся верхаводы, якія выкарысталі ў сваёй прапагандзе найбольш слабое мейсца тых дзяржаваў і завялі хлусьню ўва ўсе праявы дзяржаўнага і прыватнага жыцьця. Тыя людзі, што глыбей задумоўваліся над гэтым зьявішчам, ужо ня раз выказвалі думку, што Бог магчыма толькі дзеля таго дапусьціў зьяўленьне бальшавізму, каб людзі вачывідкі ўбачылі сапраўднае аблічча хлусьні, каб ясна пераканаліся да якіх кашмарных страхоцьцяў мусіць дайсьці там, дзе хлусьня завалодае поўнасьцю, дзе да канца разьмінаюцца з праўдаю.

Бяда, галеча і цярпеньне сустракаюцца ўсюды, зразумела не ў аднолькавай ступені. Турмы і лягэры прымусовае працы ў вольным сьвеце так-жа ня пустуюць. — Але нідзе няма такога зьдзеку над людзкою свабодаю, над людзкім сумленьнем, як у падбальшавіцкіх краінах, у тым валадарстве маны. І гэта не бядота, ня цяжкасьць працы, але кашмар насільства над сумленьнем ёсьць тою прычынаю, што ўцекачы з-пад бальшавіцкіх краінаў валеюць сьмерць на волі, як бальшавіцкую «свабоду».

Эміграцыя з-за зялезнае заслоны сілаю факту свае прысутнасьці ў вольным сьвеце мусіць ня толькі апраўдаць свае паводзіны, але так-жа быць аўтэнтычным сьведкам усяго таго насільства і зьдзеку, які дзеецца за зялезнаю заслонаю. Гаворыцца і пішацца аб гэтым нямала, але найчасьцей зьвяртаецца ўвагу на драбніцы, на няістотныя падзеі, на розныя асабістыя крыўды, а на найважнейшае замала зьвяртаецца ўвагі. Зразумелая рэч, што такія інфармацыі хоць часам і маюць форму розных сэнсацыяў замала верагодная. Дзеля таго, каб нейкае сьведчаньне было поўнасьцю верагоднае, яно мусіць апірацца на фактах, але знайсьці іх у сучасны мамэнт ня лёгка, асабліва фактаў з беларускага падсавецкага жыцьця. Каб часткава выпаўніць гэтую нястачу варта зьвярнуць увагу на некаторыя факты агульнанацыянальнага значэння. але якія да гэтага часу найменш парушаліся ў прэсе.

Грамадзяне дзяржаваў вольнага сьвету, узгаданыя ў духу заходня-эўрапэйскае культуры, ня хочуць пагадзіцца ў сваёй сьведамасьці з тым фактам, што хлусьня ў савецкім кіраўніцтва даведзена да крайнасьці, і праз гэта часам зусім у добрай веры якы трапляюць у пятыя калёны, як ахвяры бальшавіцкае прапаганды.

**Канстытуцыя і сапраўднасьць**

Савецкая ўлада стварылася толькі дзякуючы бессаромнаму адурманьваньню працоўных і сялян. Хлусьня лягла ў аснову савецкага кіраўніцтва і сёньня Савецкі Саюз трымаецца на мане; яго нельга назваць лепш, як валадарствам маны. Мана аж крычма крычыць з асноўных савецкіх правоў з кожнага радка савецкае Канстытуцыі. Разглядаць яе ўсю, заняло-б шмат мейсца, але варта разглянуць хаця пачатковыя артыкулы. Перад намі невялікая кніжка «Канстытуцыя (асноўны закон) Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Мінск 1946». Гляньма, што кажацца ў артыкулах, а што ёсьць у сапраўднасьці.

«Артыкул І. БССР ёсьць соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян». У сапраўднасьці рабочыя і сяляне там зьяўляюцца найбольш бяспраўнымі людзьмі ў сьвеце. Сяляне ня маюць права зьмяніць калгасу без дазволу ўлады, работнікі — ня маюць права перайсьці на іншую працу ў фабрыках; найменьшая кара за самавольную зьмену 3 гады прымусовае працы.

Арт. 2. пераказвае ў агітацыйнай форме, як зьявілася савецкая ўлада, але ў ім між іншым выразна кажацца, што савецкая ўлада гэта дыктатура пралетарыяту. Вось-жа калі гэты артыкул ёсьць праўдаю, дык першы хлусьнёю, бо якая-ж можа быць улада сялян і работнікаў там, дзе ёсьць дыктатура пралетарыяту? Тым самым і наступны артыкул ёсьць чысьцюсенькаю маною. Ён кажа: «Уся ўлада ў БССР належыць працоўным горада і вёскі ў асобе Саветаў дэпутатаў працоўных». Ведама, хто ёсьць тыя дэпутаты і як іх выбіраюць. Уся іхняя ўлада зводзіцца да таго, каб аднагалосна падцьвярджаць тое, што ім наперад падрыхтуюць камуністычныя верхаводы і на дадатак пляскаць у далоні на чэсьць тыхжа верхаводаў — больш нічога.

Арт. 4 гаворыць, што савецкая ўлада зьнішчыла эксплаатацыю чалавека чалавекам. У сапраўднасьці яна толькі замяніла адных эксплаататараў іншымі і да таго шмат горшымі, бо замест эксплаатацыі капіталістаў уведзена эксплаатацыю сялян і работнікаў дзяржаваю, пазбавіўшы пры гэтым іх усякага права на самаабарону. Найменшыя праявы самаабароны ўважаюцца найгоршага роду контррэвалюцыяю і бязьлітасна караюцца. Ці бачыў калі сьвет больш жудасныя сцэны, як тыя, што дзееліся на Беларусі ў часе насільнае калектывізацыі? Ці

гэта сяляне самі сябе ганялі ў Сібір і растрэльвалі? Ці Сібір ляжыць на Беларусі? Мала таго, што ў калгасах і фабрыках камуністычныя верхаводы высмоктваюць апошнія сокі з працоўных, але яшчэ бяз дай прычыны заганяюць у прымусовыя лягэры працы, каб там заўсёды было ня менш як 20 мільёнаў ахвяраў. Лік турмаў у Савецкім Саюзе штогод збольшваецца; Ф. С. Фальлер падае, што ў 1920 г. іх было на абшары ўсяго СССР 3.450, а ў 1950 г. ажно 11.760. Дзе-ж ёсьць на сьвеце горшая эксплаатацыя?

Арт. 5 і 6 гавораць аб дзяржаўнай уласнасьці і пры тым паясьняецца, што тая ўласнасьць ёсьць «усенародным здабыткам». Зразумела, што гэта пустая прапаганда, бо уласнась ёсьць тых, хто ёю карыстаецца, а карыстаюцца ёю толькі камуністычныя верхаводы. З гэтага гледзішча дык бальшавікі дайшлі сапраўды да неімаверных недарэчнасьцяў. Калгасы — гэта-ж земляробскія ўстановы, а яны ня маюць права мець ані сваіх трактараў, ані сеялак, ані жняярак, ані тымбольш камбайнаў — да гэтага ўпаважнены толькі МТС (машына-трактарныя станцыі) і за карыстаньне з гэтых машынаў калгасы штогод мусяць плаціць аграмадныя сумы для дзяржавы.

Арт. 7 і 8 гавораць аб калгасах. Тут перадусім варта спытацца: хто выдумаў іх? Ці гэта самыя сяляне самі сябе заганялі ў калгасы? Ня было ніводнае паншчыны ў сьвеце, дзе-б так зьдзекаваліся над чалавекам, як гэта робіцца ў калгасах. Старшыні калгасаў назначаюцца райкомамі, аплату за працадні, вызначаюць мяйсцовыя камуністы, нормы працы вызначаюцца згары актывістамі, першыя зборкі ўраджаю аддаюцца дзяржаве і да таго штогод мусіць быць уплочана агрaмадная сума на зялезны фонд, з якога карыстае так-жа толькі дзяржава — але ўсё гэта не называецца эксплаатацыяю толькі таму, што гэта робяць камуністы.

Арт. 9 заяўляе, што ў БССР так-жа дапускаецца законам дробная прыватная гаспадарка аднаасобных сялян і саматужнікаў, але нажаль ня кажацца, колькі яны мусяць цярпець зьдзеку ад дзяржавы. Тыя, што ў 1930 г. адважыліся скарыстаць з гэтага артыкулу масава павандравалі ў Сібір. За адзін год больш мільёна беларускіх сялян навекі разьвіталася з родным краем, а ў 1947-48 г. тое-ж сталася ў Зах. Беларусі, пры тым нават да гэтага часу ня ведамы лік ахвяраў гэтае насільнае калектывізацыі. І для каго выпісаны гэты артыкул?

Арт. 10 гаворыць аб тым, якая прыватная ўласнасьць ахоўваецца законам, але не дадае, як гэтая ўласнасьць высмоктваецца да апошняга шэляга рознымі дзяржаўнымі пазыкамі. І няхай толькі хто паспрабуе адмовіцца не «пазычыць», дык убачыць сваю ўласнасьць як сваё вуха.

Арт. 11 прызнаецца ў горкай праўдзе, што ў савецкім саюзе ўсё гаспадарчае жыцьцё вызначаецца згары плянам. Для прыватнае ініцыятывы, для свабоды там няма мейсца і ўсякае адхіленьне ад пляну рахуецца злачынствам.

Арт. 12 гаворыць аб усеагульным абавязку працы. Відаць паўтарамільённая армія энкавэдыстаў лічыцца так-жа «працоўнымі», бо-ж яны займаюць становішчы калішніх цівуноў з часоў паншчыны.

Арт. 12 гаворыць, што БССР дабравольна аб'ядналася з іншымі роўнапраўнымі савецкімі рэспублікамі. Тут перакручана ўся гісторыя дагары нагамі. Як сталася тое «дабравольнае аб'яднаньне»? Перад Першым Усебеларускім Кнгрэсам прысутныя тады ў Менску камуністы зьвярнуліся ў Маскву за інструкцыямі і сам Сталін ім адказаў, як прадстаўніком Беларускае Рады: «Мы падтрымоўваем Зьезд, які вы маеце намер склікаць, але ставім абавязковай умовай, каб Зьезд сапраўды прадстаўляў рабочых, сялян і рэвалюцыйных салдат (нібы толькі яны складаюць народ? Увага аўтара) бяз усякага зьменшаньня іх правоў, рэвалюцыйнае ініцыятывы і сацыялістычнага абавязку. Мы упэўнены, што пры такой умове канструкцыя ўлады і дзяржаўны лад Беларусі будуць савецкімі» (Н. В. Каменская. Утварэньне Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Менск. 1946, стр. 57-58). Сталася аднак іначай, дык з Масквы загадалі камісару Мясьнікаву разагнаць Кангрэс, што ён і выканаў 30 сьнежня 1917 г., акружыўшы салю нарадаў моцна азброенымі адзьдзеламі. І ад таго часу да сёньня расейцы здушваюць найменшыя праявы нейкае самабытнасьці ў межах БССР. Сёньня склад ЦК Кам. Парт. БССР чыста расейскі, а тыя нешматлікія беларусы, якія перш былі трапілі на нейкія адказныя становішчы ў партыі ўсе згінулі не сваею сьмерцю (Ігнатоўскі, Жылуновіч, Лагун, Чарвякоў, Канчэр, Шаранговіч, Убарэвіч, Адамовіч, Валькевіч і інш.). Гэта хіба так-жа аб нечым сьведчыць, але ці аб дабравольнасьці?

Арт. 13 мае сказ, які ёсьць ці не вяршком хлусьні: «Па-за межамі артыкулу 14 Канстытуцыі СССР, БССР ажыцьцяўляе дзяржаўную ўладу самастойна, захоўваючы цалкам свае сувэрэнныя правы». І гэта пішацца тады, калі ўсе кіраўнікі для БССР назначаюцца з Масквы ў асобах чыстакроўных расейцаў. Такім сёньня ёсьць першы сакратар ЦК КПБ Патолічев, такімі-ж ёсьць усе іншыя сакратары ЦК і першыя сакратары абкомаў, такім ёсьць старшыня савету міністраў БССР Клешчов і бальшыня міністраў, кіраўнікі і загадчыкі найбольш важных прадпрыемстваў у БССР так-жа расейцы. Гэтая «сувэрэнная» БССР нават ня мае магчымасьці ўлажыць расейска-беларускага слоўніка, хоць ён ужо вось 7 гадоў таму быў падрыхтаваны да друку Акад. Нав. БС

СР. Гэткіх прыкладаў ёсьць тысячы і што дня іх прыбывае. 28-Х-51 быў зьменены дзяржаўны сьцяг БССР, але ад таго часу да сёньняшняга дня колькі зьявілася фатаграфіяў у «Звязьдзе» з розных урачыстасьцяў, нідзе ня было відаць таго новага сьцягу. Падручнік па гісторыі БССР ужо некалькі гадоў прайходзіць цэнзуру ў Маскве, для тае «сувэрэннае» БССР.

Арт. 14 падае толькі адміністрацыйны падзел БССР, але пры гэтай нагодзе выяўляе, як самавольна бальшавікі мянялі той падзел.

Арт. 15 «БССР захоўвае за сабою права свабоднага выхаду з СССР». Аднак найменшая спроба ў гэтым кірунку ўжо некалькі раз здушвалася найбольш жарстокім спосабам, як контррэвалюцыя. Больш таго, калі бальшавікі плянавалі вынішчэньне беларускага актыву, дык слова ў слова паўтарылі ў акце абвінавачаньня гэты артыкул. Яшчэ ў 1918 г., калі былі спробы некаторых камуністаў стварыць самастойную і незалежную камуністычную партыю, БССР дык гэта ў Маскве асудзілі, як страшны злачын, бо ў ім крыўся адрыў ад Савецкае Расеі (Каменская наз. твор. стр. 145). Калі-ж у 1930 г. ліквідавалі нацдэмаў, дык гэты артыкул быў найцяжэйшым абвінавачаньнем і паўтаралі яго ня толькі ў судовай салі, але і ў прэсе. Напр. С. Я. Вольфсон у кнізе ««Навука» на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі», Менск. 1931, стр. 81 пісаў «Іх «дзяржаўная незалежнасьць» азначала адрыў ад Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, яна азначала разрыў з краінаю, якая будуе сацыялізм». І дзеля чаго ўставілі той артыкул у канстытуцыю?

Арт. 16 «Тэрыторыя БССР ня можа быць зьменена бяз згоды БССР». Горшае насьмешкі над сапраўднасьцю, як насьмешка з гэтага артыкулу ў БССР цяжка знайсьці. Калі выконваліся якія фармальнасьці адносна зьмены граніцаў БССР, дык гэта толькі тады, калі яны былі пабольшваныя, але гандаль беларускімі абшарамі на карысьць іншых дзяржаваў, заўсёды выконваўся Масквою бяз ніякага пытаньня згоды ўладаў БССР, ані насельніцтва тых абшараў. Абвешчаньне БСССР адбылося 1-І-1919 г. у Смаленску і ў межах 7-і раёнаў: Менскага, Смаленскага, Віцебскага, Магілёўскага, Гомельскага, Гарадзенскага і Баранавіцкага, але праз няпоўных два месяцы па загаду з Масквы 27 лютага самая БССР замяняецца ў Літ.-Бел. ССР, але не на доўга, бо 12-VII-1919 г. бальшавікі падпісваюць з Летуваю ўмову і адступаюць ёй частку Зах. Беларусі, ня пытаючыся да гэтага ніякае згоды ў нікога, а 1-VIII-1920 г. абвяшчаюць паўторна ў Смаленску ўтварэньне БССР, але цяпер ужо толькі ў межах 6 паветаў. Але і гэты акт быў нядоўгавечны, бо 18-ІІІ-1921 г. яны падпісваюць мірную ўмову з Польшчаю ў Рызе, на моцы якое дзеляць Беларусь на часьці, быццам ніякіх папярэдніх пастановаў адносна Беларусі ня было. Самое БССР стаецца агулам карыкатураю, бо аддаўшы вялікую часьць Беларусі Польшчы, большую частку абшараў Беларусі забірае РСФР, ня пытаючы ані згоды насельніцтва, ані ўладаў БССР і толькі пасьля доўгіх торгаў бальшавікі згаджаюцца 24-ІІІ-1924 г. прылучыць да БССР Віцебшчыну і частку Гомельшчыны, а 6-XII-1926 г. Гомельскі і Рэчыцкі паветы, аб Смаленшчыне і гаварыць не дазволілі. Затое заняўшы ў 1939 г. Зах. Беларусь, бальшавікі адзін раз у сваёй гісторыі датрымалі арт. 16 канстытуцыі БССР і правелі ўсе фармальнасьці адносна зьмены межаў, але гэтым разам не адбіраліся, а прылучаліся новыя абшары. Але ўсяго восем месяцаў пасьля афармленьня прылучэньня бальшавікі зноў наплявалі на ўсе праведзеныя фармальнасьці і 15-VI-1940 г. аддалі самавольна летувісам беларускую Віленшчыну, а 16-VIII-1945 г. палякам Беласточчыну.

І так бязмала кожны артыкул канстытуцыі (а ўсіх ёсьць 121) гэта толькі замыльваньне вачэй, бо ў сапраўднасьці на ўсім савецкім абшары ў сіле толькі адзін няпісаны артыкул — поўнае і ўсеўладнае насільства над чалавекам і над усімі людзкімі пачуцьцямі.

**Н. Перагляд.**

# Пагоня за цудамі

Агульна ведама, што людзкая цікавасьць уганяецца за рознымі сэнсацыямі, за рознымі нязвычайнымі зьявішчамі, а ў рэлігійным жыцьці гэтая цікавасьць праяўляецца ў пагоні за цудамі. Ад вякоў у душы чалавека ёсьць імкненьне да чагосьці нязвычайнага; і шукае чалавек таго нязвычайнага ўсюды, але няраз гэты гон папросту асьляпляе чалавека і людзі прымаюць за надзвычайнае тое, што ў сапраўднасьці такім ня ёсьць. Калі людзі прызнаюць за сэнсацыю якую пустую падзею, дык з гэтага ніякае шкоды для нікога няма, але горш маецца справа, калі прызнаюць за цуд якоесь звычайнае, або проста ўяўнае здарэньне — праз гэта падкопваецца рэлігійнае жыцьцё. Каб асьцерагчы людзей ад падобных памылак, з волі Божае дана спэцыяльная ўлада Царкве і вернікі могуць толькі тады ўважаць нейкае здарэньне за цуд, калі яго за такі прызнае адпаведная царкоўная ўлада. З якою ўвагаю Царква выконвае гэтае адказнае заданьне могуць

сьведчыць падзеі з апошніх дваццаці гадоў. Асабліва пасьля другое сусьветнае вайны была пашырылася быццам нейкая «хвароба на цудоўныя зьяўленьні» Найсьвяцейшае Дзевы Марыі. За той час Кангрэгацыя Сьв. Ураду разглянула аж 24 выпадкі зьяўленьняў, але з іх прызнала за сапраўдныя толькі два, адносна 8 выпадкаў яшчэ вядзецца сьледзтва, а аб іншых выпадках выдана нэгатыўны асуд, прызнаючы іх тым самым за фальшывыя.

У хранальягічным парадку гэтыя зьяўленьні выглядаюць так: 1931 г. у Эцкіога (Гішпанія) зьяўленьне 2 дзецям і 150 дарослым — пастанова нэгатыўная. 1932 г. у Борінг (Бэльгія) зьяўленьне 2-м юнаком і 3-м дзяўчынкам, прызнана ў 1943 г. за сапраўднае і дазволена культ. 1933 г. у Баннэ (Бэльгія) 8 зьяўленьняў адной дзяўчынцы прызнана ў 1949 г. за сапраўднае і дазволена культ. 1937-40 г. у Гэдэ (Нямеччына) больш, як 100 зьяўленьняў чатыром дзяўчынкам — яшчэ няма пастановы. 1944 г. у Бэргаме (Італія) 12 зьяўленьняў адной дзяўчынцы — пастанова нэгатыўная. 1945 г. у Кодозэра (Гішпанія) зьяўленьне адной дзяўчынцы і потым 100 дарослым — яшчэ няма пастановы. 1946 г. у Пфафэнгофэн (Нямеччына) тры зьяўленьні адной дзяўчыне — яшчэ няма пастановы. 1947 г. на абтоку Бушар (Францыя) зьяўленьне сьвятару і вернікам — пастанова нэгатыўная. 1947 г. у Эспі (Францыя) зьяўленьне дзецям — пастанова нэгатыўная. 1947 г. у Тры Фантаны (Рым) зьяўленьне мужчыне і 3-м дзецям — яшчэ няма пастановы. 1947-49 г. у Форствайлер (Нямеччына) 8 зьяўленьняў адной жанчыне — пастанова нэгатыўная. 1947-51 г. ва Урукаіне (Бразілія) зьяўленьне манаху — яшчэ няма пастановы. 1948 г. у Ассіжу (Італія) грамады вернікаў бачылі, як «парушаецца» на катэдры статуя Багародзіцы — пастанова нэгатыўная. 1948 г. у Жіміліяно (Італія) зьяўленьне дзяўчынцы — пастанова нэгатыўная. 1948 г. і Ліпа (Філіпіны) зьяўленьне манашцы — пастанова нэгатыўная. 1948 г. у Аспанґ (Аўстрыя) зьяўленьне аднаму старому — пастанова нэгатыўная. 1948 г. у Клюй (Румынія) зьяўленьне цэлай грамадзе — яшчэ няма пастановы. 1949 г. у Фэрбах (Нямеччына) зьяўленьне адной дзяўчынцы — пастанова нэгатыўная. 1949 г. у Любліне (Польшча) грамада бачыла, як «плача» абраз Багародзіцы — пастанова нэгатыўная. 1949 г. у Гаснюш (Мадзяршчына) зьяўленьне грамадзе — пастанова нэгатыўная. 1949-50 г. у Гэрольдбах (Нямеччына) зьяўленьне 4-м дзяўчынкам, а потым іншым дзецям — пастанова нэґатыўная. 1950 г. у Аквавіва-Плятані (Сіцылія) 7 зьяўленьняў адной дзяўчынцы — яшчэ няма пастановы. 1950 г. у Атіс-Монс (Францыя) зьяўленьне некальк дарослым — пастанова нэгатыўная.

Да гэтага сьпісу варта дадаць, што ў такіх мейсцах цудаў, як Люрд у Францыі і Фатіма ў Партугаліі ёсьць сталыя камісіі зложаныя з лекараў і сьвятароў, якія з найбольшаю магчымаю дакладнасьцю дасьледжваюць кожны выпадак нязвычайнага аздараўленьня, каб выявіць, ці ў ім ёсьць сапраўды выяўленьне надпрыроднага ўзьдзеяньня, ці не. Вось-жа з боку царкоўных уладаў робіцца ўсё магчымае, каб людзкі гон за цудамі ня ўводзіў людзей у блуд.

Пры гэтай нагодзе варта зацеміць, што для тых, хто хоча падзіўляць Бога ў Ягоных учынках, ня трэба аж нейкіх асаблівых і нязвычайных цудаў. Божую веліч, усемагутнасьць і мудрасьць можна назіраць даслоўна ўсюды і заўсёды. Што можа быць больш звычайным, як вада?! Але варта пазнаць яе дакладней і яна выявіць найбольш падзівугодную мудрасьць і веліч Стварыцеля! Утвараецца вада з тлёну і вадароду; калі яны ня злучаны, дык вадарод вельмі лёгка гарыць, а тлён неабходны да ўсякага гарэньня, але злучаныя разам твораць воду, якая ня толькі што не гарыць, але гасіць гарэньне. Да таго вада мае падзівугодныя скрытыя тэмпэратуры замярзаньня і параваньня, а замёрзшы адхіляецца ад усіх нормаў і ахалоджваючыся замест зьменшвацца ў абыйме — павялічваецца. Усе гэтыя ўласьцівасьці вады неабходныя да захаваньня жыцьця на зямлі — як-жа яны прыгожа сьведчаць аб бесканечной Божай мудрасьці!

Варта яшчэ прыглянуцца да інстынктаў жывёлаў і асабліва інстынктаў жамяры, або велічнай будове сусьвету і будове кожнага атаму, які складае нашае цела, каб убачыць заўсёдныя цуды, якія выяўляюць бесканечную веліч Стварыцеля.

Калі людзі прайходзяць абыякава побач падобных зьявішчаў, а затое шукаюць чагосьці нязвычайнага, не зьвяртаючы ўвагі на тое, ці яно ў сапраўднасьці такім ёсьць, дык заслугоўваюць на тую загану, якою дакараў калісь Хрыстос сваіх случахоў: «Род гэты нягодны, ён шукае знакоў і знакі ня будуць дадзены яму, апрача знаку Іоны прарока» (Лук. XI, 29).

Цуды дзеяліся на сьвеце і напэўна ў будучыні Бог ніколі не перастае ў цудоўны спосаб пры адпаведных нагодах заяўляць аб Сабе, але гэта дзеяцца толькі ў асаблівых выпадках і для асаблівых, Богам азначаных мэтаў, а ніколі для заспакаеньня пустое людзкое цікавасьці.

**А. Лазар.**

# Замест вянка на сьвежую магілу М. Шастака

Мала ёсьць такіх людзей, што ніколі ня выбіваючыся на відныя мейсцы, ня прыцягваючы да сябе ўвагі, жыва цікавяцца ўсімі праявамі грамадзкага жыцьця і шчыра адклікаюцца на ўсе грамадзкія патрэбы — гэткім быў Міхась Шастак. Пазнаёміўся я з ім толькі праз карэспандэнцыю ад 1947 г. і ад гэтага часу лістоўная сувязь між намі не перарывалася.

Між тых, што акуратна плацілі сяброўскія складкі на ЗБВБ, прысылалі ахвяры: на Беларускі Дом у Лёндане, на бедных дзяцей у Нямеччыне, на беларускую прэсу — Міхась заўсёды быў адным з першых.

Лісты яго былі кароткія, але з іх біла шчырая любоў да Бацькаўшчыны, спагаднасьць да цярпячых і зацікаўленасьць грамадзка-культурнымі справамі.

Апошнім часам ён працаваў пры фабрыцы, дзе ламалі вапенны камень і ашчапак вапняка 31 сакавіка 1953 г. вырваўшыся з каменяломнае машыны, выцяў яго бязьлітасна ў галаву. Тры гадзіны пасьля Міхась аддаў душу Богу.

Маладое жыцьцё Міхася (меў ён роўна 30 гадоў) падобнае да шматлікіх беларусаў у Англіі. Падчас нямецкае акупацыі ён быў у афіцэрскай школе ў Менску. Пасьля перайшоў у беларускія вайсковыя адзьдзелы, а пры канцы вайны ў польскую армію і там быў ранены. На духу падтрымоўвала яго беларуская прэса, за якою ўвесь час уважна сачыў. Нястачу свае асьветы дапаўняў лектураю.

Чуючыся «чужынцом» у акружаючым сьвеце, ён уважна назіраў за сваім асяродзьдзем. У апошнім лісьце да мяне з 8 чэрвеня пісаў: «Калі часам у суботу я бываю ў горадзе і гляджу на натаўп людзей з боку са сваёю абыякавасьцю, то мне здаецца, што гэта таўпа людзей, каторая плыве вуліцамі, ідзе ня знаючы куды і шукае ня ведама чаго. Калі я ўмяшаюся ў гэтаю таўпу і шукаю чагосьці разам з гэтай таўпою, тады я трачу гэтае пачуцьцё...»

Жаданьне таго, каб ня згубіцца ў натаўпе — гэта вельмі вартасная рыска здарова думаючага беларуса на чужыне.

На мяжы Шкоцыі і Англіі на магільніку ў Пэнріт супачыў на векі наш дарагі Міхась. Яго сябры і знаёмыя плянуюць паставіць над магілай свайго добрага сябры хоць скромны памятнік.

Хай будзе яму лёгкай чужая зямелька!

**а. Ч. Сіповіч**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### ДЫПЛЁМАТЫЧНЫЯ ЗЬВЯЗКІ ВАТЫКАНУ З ІРАНАМ.

Сёлета на пачатку траўня ўстаноўлена афіцыяльныя дыплёматычныя зьвязкі між Апостальскім Пасадам і Іранам. Ад гэтага часу пры Ватыкане ёсьць ўпаўнаважаны іранскі міністар, а ў Тэгэране тамтэйшая Апостальская Дэлегатура, якая існавала ўжо ад 1874 г. заменена ў Інтэрнунцыятуру.

### НОВЫ АПОСТАЛЬСКІ НУНЦЫЙ У ПАРЫЖУ

На мейсца былога апостальскага нунцыя Я. Эм. Ронкальлі, які цяпер ёсьць кардыналам і патрыярхам Вэнэцыі, на пачатку чэрвеня прыехаў у Парыж Я. Э. Павал Марэльля, былы нунцый у Аўстраліі.

### НЯМА НІЯКАГА КАНТАКТУ МІЖ ВАТЫКАНАМ І КРЭМЛЕМ.

Падчас сёлетняе перадвыбарчае агітацыі ў Італіі, гэнэральны сакратар італьянскае камуністычнае партыі Тоіляці аднойчы заявіў, што ён, будучы ў Маскве, «гаварыў з кім трэба» аб навязаньні кантакту для перагавораў між Апостальскім Пасадам і СССР. Адказваючы на гэтую заяву, ватыканская газэта «Осэрваторэ Романо» сьцьвердзіла, што гутарка Толіяті ёсьць звычайным выбарчым манэўрам, бо ў сапраўднасьці між Ватыканам і Крэмлём няма ніякіх спробаў збліжэньня.

### СОТЫЯ ЎГОДКІ АДНАЎЛЕНЬНЯ КАТАЛІЦКАЕ ЕРАРХІІ Ў ГАЛЯНДЫІ.

Галяндзкія каталікі сёлета 16, 17 і 18 траўня азначалі вялікімі ўрачыстасьцямі сотыя ўгодкі аднаўленьне ў краю каталіцкае ерархіі. Найбольшыя ўрачыстасьці адбыліся 17-V ў Утрэхце. Таго дня на найбольшым стадыёне гораду легат Сьвяцейшага Айца Я. Эм. кардынал Ван Рой адправіў пантыфікальную Службу Божую ў прысутнасьці шматлікіх высокіх духоўных, дзяржаўных прадстаўнікоў і больш, як 30 тысяч вернікаў. Сёньня ў Галяндыі на агульны лік 10 мільёнаў насельніцтва ёсьць 38,5 прац. каатлікоў, 40,8 прац. пратэстантаў, 3,7 прац. іншых рэліг. і 17,1 прац. агностыкаў.

### КАНГРЭС ДАНСКІХ КАТАЛІКОЎ.

Для данскіх каталікоў сёлета дні 22-24 траўня бязумоўна сталіся важнаю гістарычнаю датаю. У гэтых днёх адбываўся ў Капэнгазе кангрэс данскіх каталікоў, а напярэдадні кангрэсу Апостальскі Пасад замяніў дагэтулешні Апостальскі Вікарыят у Копэнгазе на Копэнгагскае біскупства на чале з Я. Э. Іванам-Тодарам Сур. Данія ў сваёй

аграмднай большасьці ёсьць пратэстанцкаю краінаю, у ёй на 4 з лішнім мільёны жыхароў ёсьць толькі 27.000 каталікоў.

## КАНГРЭС ФРАНЦУСКАЕ КАТАЛІЦКАЕ АКЦЫІ.

У Францыі ад некаторага часу рэлігійнае пытаньне набірае вельмі паважнага ажыўленьня. Аб тэтым між іншым можна было навонча пераканацца на сёлетнім Агульным Кангрэсе Францускае Каталіцкае Акцыі, які адбыўся ў Парыжу між 14-16 траўня. Поўная саля ў Доме Хэміі, дзе адбываліся нарады і жывы ўдзел дэлегатаў у нарадах і працах Кангрэсу, зьмястоўныя рэфэраты і даклады з мейсц — усё гэта казала само за сябе аб жывучасьці каталіцызму ў Францыі. Праўда, цяжкасьці рэлігійнага жыцьця тут ўсё яшчэ астаюцца вельмі паважнымі балячкамі для францускага каталіцызму, але ўзрастаючае ажыўленьне ў кругох вернікаў дае надзею, што ўсе цяжкасьці з часам будуць пераможаны.

## У ЮГОСЛАВІІ ПАСТАРОМУ.

Адносіны югаслаўскае камуністычнае ўлады да рэлігіі, міма рэклямаў аб зьмене на лепшае, астаюцца ўсьцяж варожымі. Перагаворы з прадстаўнікамі Каталіцкае Царквы адносна ўлажэньня пагадненьняў перарвана, а для іншых веравызнаньняў (праваслаўнага, эванпельскага, мэтадыскага і магомэтанскага) камуністы сіламоц накінулі імі-ж самымі ўложаны статут. Да гэтага часу ў Югаславіі яшчэ агульнага ліку бязбожнікаў не падавалася, бо нават у 1950 г. афіцыялына выяўляла рэлігійную прыналежнасьць, амаль усё насельніцтва. Тады на агульны лік 15.752.000 жыхароў было 36 прац. каталікоў, 47 прац. праваслаўных, 11 прац. магомэтанаў і 6 пратэстантаў і іншых.

## ПАЛАЖЭНЬНЕ Ў КІТАІ...

Супрацькаталіцкі наступ кітайскае камуністычнае ўлады ўзмацняецца штораз больш, але варты ўвагі, факт, што ў меру націску самыя-ж камуністычныя правадыры пераконваюцца ў немагчымасьці зьнішчыць каталіцызм. Як вымоўны дакумант гэтага пераканання можа быць заява Шу-Ан-Ле-на адным са сходаў у Пэкіне, калі ён між іншымі казаў: «Японская армія была вялікая і добра зарганізаваная і мы яе здолелі выгнаць; рэакцыйныя кітайскія сілы былі магутныя і добра азброеныя, мы аднак іх перамаглі; а вось каталікі, якія у Кітаі твораць параўнаўча вельмі слабую і бясьсільную групу, хоць мы з імі зацята ваюем ужо больш году, ня зьніклі з нашага краю.»

## ВЕРАВЫЗВАНЬНІ Ў СЬВЕЦЕ.

Паводля апошняга гадавіка Брытыйскае Энцыклёпэдыі прыблізны лік вернікаў усіх веравызнаньняў у сьвеце ў 1952 г. выглядаў так:

Каталікоў усіх абрадаў 425.508.220. Праваслаўных 128.280.414. Пратэстантаў (усе сэкты) 196.503.520. (Усіх хрысьціян раазм 750.292.154). Ізраільцян 11.532.500. Магомэтан 315.699.603. Зороастраў 124.890. Шынтоістаў 25.000.000. Тоістаў 50.053.200. Конфунцыяністаў 300.290.500. Буддыстаў 150.300.000. Гіндуістаў 255.715.000. Прымітыўных рэлігіяў 121.150.000. Іншыя рэл. і бязьверкі 387.579.154. Усіх разам — 2.367.737.000.

## НА ШЛЯХУ ДА БЭАТЫФІКАЦЫІ АРХІБ. МАТУЛЕВІЧА.

Як паведамляюць з Рыму, там сёлета 15 траўня пачаўся інфармацыйны працэс аб апініі сьвятасьці слугі Божага Юрага Матулевіча, які ў 1918-1825 г. быў Віленскім біскупам, а потым тыт. архібіскупам Адулійскім. Ён аднавіў у 1909 годзе закон айцоў Марыянаў і, будучы гэнэралам гэтага закону залажыў у Друі над Дзьвіною беларускі дом айцоў Марыянаў. Будучы Віленскім біскупам, ён спрыяў увядзеньню беларускае мовы ў казаньнях і катэхізацыі: праз гэта і праз падобнія адносіны да летувісаў ён стаўся прадметам страшэнных нападаў з боку польскіх уладаў. Перад узьняцьцем Віленскага пасаду да годнасьці мітраполіі ў 1925 г. напады супраць яго прынялі амаль форму прасьледаваньня і ён мусіў зрачыся з Віленскага пасаду. Пабыўшы пасьля гэтага нейкі час у Рыме, ён высылаецца ў родную Летуву, як Апостальскі Вікары, але там хутка пасьля цяжкае апэрацыі ў Коўне ўмірае 27-I-1927 г. ў апініі сьвятасьці.

Цяпер, калі царкоўныя ўлады зьбіраюць з найбольшаю дакладнасьцю ўсе весткі аб жыцьці і дзейнасьці ды гэройскіх цнотах новага слугі Божага, вернікі могуць шмат прычыніцца да хутчэйшага вядзеньня працэсу, молячы шчыра Бога, каб быў ласкаў уславіць цудамі свайго вернага слугу.

## НАЙСТАРЭЙШЫ АБРАЗ ХРЫСТА.

Нямецкі археалёг праф. Вацінгер, які вёў раскопкі над ракою Эўфратам у Малой Азіі, сьцьвердзіў, што там знойдзена ў руінах абраз Хрыста з 232 году. Гэта найстарэйшы, ведамы да сёньня, абраз Хрыста.

## ЭМІГРАЦЫЙНЫЯ СПРАВЫ.

У мінулым годзе створана ў Ватыкане пры Кансыстарыяльнай Кангрэгацыі Міжнародны Эміграцыйны Цэнтр. Сёлета Кансыстарыяльная Кангрэгацыя павызначала ў паасобных краінах сваіх эміграцыйных дырэктароў. На Францыю гэнэральным дырэктарам для эміграцыйных справаў чужынцоў і адначасна членам Высокае Рады для Спраў Эміграцыі ў Францыі вызначаны гэнэральны вікары Парыскае Архіепархіі для спраў чужынцоў монс. Іван Рюп.

Са свайго боку каталіцкая амэрыканская арганізацыя Н.Ц.В.Ц. здабыла магчымасьць дапамагчы атрымоўваць афідавіды і візы на ўезд у Амэрыку для тых уцекачоў, якія пакінулі край пасьля першага студзеня 1945 г. Н.Ц.В.Ц. мае сваё прадстаўніцтва ў Парыжу: 140, rue du Bac. Paris VII.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

### Бязбожная прапаганда.

«Журнал Моск. Патр.» Нр. 3 г.г. паведамляе, што былушы на пакоі ў Жыровічах ад 1949 г. архіяп. Іоан (Братолюбов) назначаны ў Ульянаўск. Пасьля гэтага на ўсю БССР астаўся толькі адзін савецкі праваслаўны ерарх Менскі архіяп. Пітірым. Варта да гэтага зацеміць, што каталіцкіх ерархаў там няма ўжо ад 1944 г. Такі стан рэчаў ня прыпадковы, але ёсьць вынікам плянавае дзейнасьці камуністычнае партыі, якая заўсёды падчыркавала сваю варожасьць да рэлігіі. Усякае паслабленьне на фронце антырэлігійнае барацьбы камуністы востра асуджаюць. Вось і сёлета на пленуме ЦК КПБ, які адбыўся 27-29 студзеня сакратар Бабруйскага абкома Л. І. Лубеннікаў крытыкаваў «Рэспубліканскае Таварыства па пашырэньню палітычных і навуковых ведаў, а разам з ім і рэспубліканскія газэты за забыцьцё пытаньняў прыродазнаўча-навуковай і атэістычнай прапаганды», як аб гэтым паведамляе «Зьвязда» Нр. 27 з 1-II-53. Пару дзён пазьней, 4-II тая-ж газэта ў Нр. 29 вуснамі прапагандыста Н. Лукавецкага наракае на нястачы ў антырэлігійнай прапагандзе і асабліва на тое, што «ў многіх антырэлігійных дакладах слаба крытыкуецца рэлігія, няўмела вядзецца барацьба з рэлігійнымі забабонамі, сустракаецца нямала фактычных памылак і недакладнасьцяў». Нараканьні «Звязды» папярэдзіў расейскі часапіс «Вопросы Философии» Нр. 2, 1952 г. на стр. 253 пад адрасам беларускага Рэсп. Таварыства выказваў паважны закід, што на працягу мінулага году Таварыства нават не падрыхтавала ніводнае брашуры. Усе гэтыя атакі напуста не прайшлі. Сёлета выдана пабеларуску брашуру Сталіна «Гутарка з першай амэрыканскай рабочай дэлегацыяй». у якой Сталін выказваецца супраць рэлігіі, а «Звязда» часьцей пачала нападаць на рэлігію вуснамі акадэмікаў. Так 16-IV-53 апублікавала артыкул акад. Карлюка ««Фізычныя» ідэалісты ворагі сапраўднае навукі», у якім аўтар нападае на амэрыканскіх і англійскіх вучоных за тое, што яны, будучы вучонымі, «ператварыліся ў рупары рэлігійнае прапаганды». Магчыма хоць гэткім спосабам беларусы даведаюцца аб адносінах да рэлігіі сапраўдных вучоных.

### Нябывалае здарэньне.

Сёлетнія выбары ў мяйсцовыя саветы на абшары БССР, якія адбыліся 22-II, прынесьлі бальшавіком неймаверную неспадзеванку: у чатырох выбарчых акругах у сельскія саветы, выстаўленыя там дэлегаты, не атрымалі абсалютнае большасьці галасоў і ня былі выбраны. Выбары назначаны паўторна. «Звязда» Н. 51 з дня 1-III, паведамляючы аб гэтым выпадку, не называе тых адважных акругаў, адкуль дзеля таго, каб нельга было прасачыць, што з імі станецца потым.

## АНГЛІЯ

### Агульны Зьезд ЗБВБ

Сёлета Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі мела ўжо сёмы з чаргі Агульны Зьезд. Адбыўся ён у Беларускім Доме ў Лёндане 25 і 26 красавіка. Дакладная справаздача старшыні галоўнае ўправы А. Надсона дала ясна абрз дзейнасьці ЗБВБ за мінулы год з усімі асягненьнямі і нястачамі, дапоўнілі яе справаздачы Рэвізійнае Камісіі і з паасобных аддзьдзелаў: Лёндану, Бірмінгаму, Брадфорду, Кэмбрыджу і Манчэстэру. Даўшы абсалюторыю ўступаючай управе, выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня—П. Асіповіч, сакратар — П. Навара, скарбнік — А. Быкоўскі сябры ўправы — Я. Мазура, Ф. Бартуль і П. Дварэцкі. Няпрыемна толькі што Зьезд адносна рэлігійных практык палавінаю галасоў разам са старшынёю Зьезду пайшоў па лініі ляіцызацыі і пастанавіў ня высьвячваць Беларускага Дюму; якая-б ня была прычына гэткае пастановы, яна аб нічым добрым ня сьведчыць.

## АРГЭНТЫНА

### На арганізацыйнай ніве.

Вясна сёлетняга году азначылася паважным ажыўленьнем у беларускім грамадзкім жыцьці ў Аргэнтыне. Коштам Задзіночаньня Беларусаў у Аргэнтыне выдана першую інфармацыйную кніжку аб Беларусі ў гішпанскай мове **«Беларусь і беларусы ў Аргэнтыне».** Кніжка мае акрамя агляду гісторыі Беларусі, так-жа адзьдзел дакумантаў адносна беларускае эміграцыі ў Аргэнтыне і адрасар важнейшых беларускіх арганізацыяў на эміграцыі.

Сьвяткаваньне **35-ых угодкаў** абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ЗБА ладзіла 12 красавіка. Раніцаю гэтага дня а. Арыйчык адправіў Службу Бобую ў Украінскай Праваслаўнай Царкве за Беларусь, а папалудні адбылася акадэмія ў Летувіскім клюбе. На акадэміі сябры ЗБА мелі гонар вітаць прадстаўнікоў аргэнтынскае ўлады, аргэнтынскае прэсы і прадстаўнікоў суседніх народаў. Пасьля прывітаньня прысутных К. Мерляком і рэфэрату аб Сакавіковым Акце Ул. Другаўца віталі беларусаў з нацыянальным сьвятам прадстаўнікі грузінаў, латышоў, летувісаў, палякаў славакаў і украінцаў. Прамовы пераплятаіся дэкламацыямі патрыятычных беларускіх вершаў і песьнямі з грамафонных дыскаў.

З гэтае нагоды была наладжана **выстаўка беларускае прэсы на эміграцыі,** якую прысутныя

мелі магчымасьць аглядаць пасьля акадэміі. Яна бяз слоў магла прамовіць кожнаму аб жывучасьці беларускага народу.

Дня 31 траўня ў Буэнос Айрэс адбыўся шосты з чаргі **Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Аргэнтыне.** Пасьля супольнага адсьпяваньня малітвы «Магутны Божа», старшыня ЗБА В. Другавец приступіў да выкананьня парадку дня. Выбраўшы прэзыдыю Зьезду, кіраўнічыя органы ЗБА падалі дакладную справаздачу з дзейнасьці арганізацыі за мінулы год, а зьмястоўная дыскусія пасьля іх намеціла вытычныя для пляну працы на будучыню. Даўшы абсалюторыю з падзякай уступаючай управе, выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — В. Казлоўскі, сябры ўправы — А. Літвінскі, М. Ланкевіч, Л. Петраш, А. Карповіч, культурны рэфэрэнт — В. Другавац. Ад імя Зьезду былі высланыя прывітаньні прэз. Аргэнтыны гэн. Пэрону і прэз. БНР інж. М. Абрамчыку.

## АЎСТРАЛІЯ

### З грамадзкага жыцьця.

На другім Зьезьдзе прадстаўнікоў **Каардынацыйнага Камітэту** Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, які адбыўся сёлета на пачатку красавіка ў Мэльбурне, пасьля ажыўленае дыскусіі над дасюлешнею працаю Камітэту і аднаглосна прызнанае абсалюторыі выбрана новую ўправу Камітэту ў такім складзе: старшыня — А. Каранеўская, сябры ўправы — д-р Я. Малецкі, М. Скабей, праф. Н. Нікан і А. Калодка, прэсавае прэдстаўніцтва — Я. Чарнэцкі, выдавецтва — М. Бакуновіч.

Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў у Аўстраліі пашырае сваю дзейнасьць і пабольшвае рады. У сакавіку заснована **новы адзьдзел ЗБВ у Адэляідзе** з аседкам у Вуд'зід.

Стараньнем талоўкае ўправы ЗБВ у Аўстраліі аўстралійскае радыё пачало перадаваць **канцэрты беларускае песьні** з грамафонных дыскаў, суправаджаныя зьмястоўнымі інфармацыямі аб Беларусі. Гэткія канцэрты перадаваліся радыёстанцыяй Пэрт 3 і 19 красавіка, радыёстанцыяй Брісбэн 5, 6 і 24 траўня, пры гэтым спікэр Рэкс Годэль 5-V зрабіў прыгожы даклад аб Беларусі, а 24-V аб беларускай эміграцыі ў Аўстраліі.

Адзьдзел ЗБВ у Пэрт зарганізаваў сваю **бібліятэчку.**

### Агульны Зьезд СББ

## БЭЛЬГІЯ

Ушанцы сакавіка адбыўся ў Лювэне шосты звычайны Агульны Зьезд Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. Раніцаю таго дня была адпраўлена Служба Божая ў праваслаўнай беларускай капліцы, а папалудні адбываліся нарады Зьезду ў Беларускім Студэнцкім Доме. Справаздачы ўступаючае ўправы, касіра, Рэвізійнае Камісіі і прэсавага рэфэрэнта выявілі, што СББ за мінулы год выканала паважную працу ў беларускім грамадзкім жыцьці, хоць не абышлося і без недахопаў. Даўшы абсалюторыю ўступаючай ўправе выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — а. А. Смаршчок, заступнік старшыні—А. Шацько, сакратар — Ю. Сенькоўскі, скарбнік — А. Міцкевіч, сацыяльны рэфэрэнт — В. Шчэцька.

## З. Ш. А.

### З жыцьця беларускіх арганізацыяў

**Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва** ў Нью Ёрку сваё паседжаньне дня 25-IV прысьвяціў тэме « Weisstuthenia » ці « Bylorussia ». Пасьля рэфэрату д-ра Тумаша на названую тэму адбылася вельмі жывая і зьмястоўная дыскусія.

**Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў** адзьдзел Нью Ёрк мела надзвычайны сход дня 18-IV, на якім папоўнена склад ўправы адзьдзелу.

**Згуртаваньне Беларускае Моладзі** наладзіла ў Нью Ёрку мастацкі курс рысаваньня і маляваньня.

Для ўшанаваньня **36-ых угодкаў сьмерці М. Багдановіча** ЗБМ наладзіла акадэмію з рэфэратам аб жыцьці і творчасьці паэты з мастацкаю часткаю.

Усе беларускія арганізацыі ўдзельнічалі дня 2 траўня ў **Парадзе Ляяльнасьці** ў Нью Ёрку. Сёлета гэты парад адбыўся асабліва ўрачыста.

## ФРАНЦЫЯ

### Агульны Зьезд АБРФ

Сёлета 12 красавіка Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі мела ўжо восьмы з чаргі Агульны Зьезд. Адбыўся ён у салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу. Адчыніў Зьезд гэнэральны сакратар Ал. Яцэвіч і пасьля выбараў прэзыдыі Зьезду ён-жа зрабіў справаздачу з дзейнасьці ўправы за мінулы год. Акрамя чыста прафэсійнае дзейнасьці было зроблена нямала і ў іншых галінах грамадзкага жыцьця, аб гэтым так-жа сьведчылі справаздачы Рэвізійнае Камісіі і справаздачы з філіяў АБРФ. Пасьля кароткае дыскусіі над справаздачамі і аднагалосна данае абсалюторыі для ўступаючае ўправы, выбрана новую ўправу ў такім складзе: гэнэральны сакратар — М. Наумовіч, заступнік гэн. сак. — В. Міцкевіч, сакратар — М. Лысуха, скарбнік — З. Пузоўскі, сябры ўправы — Э. Цыбульскі і П. Мятла. У вольных прапановах было пастаноўлена ападаткавацца па 500 фр. для самапомачы ў няшчасных выпадках. На заканчэньне намечана вытычныя для пляну працы на йдучы год.

### Рэфэрат аб беларускай міталёгіі.

Міжнародная Вольная Акадэмія Навук і Літаратуры ў Парыжу сёлета 30 і 31 траўня мела сваю другую з чаргі Агульную Асамблею. З гэтае нагоды сябры Акадэміі мелі даклады на розныя тэмы. Між іншым а. Леў Гарошка прачытаў па-француску даклад «Аб беларускай міталёгіі», выклікаючы ў прысутных агульнае зацікаўленьне да так мала ведамае тэмы.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## ЗНАЙШОЎ СКАРБ

У парахвіі Н. уважалі, што іхны старэнькі парах быў вельмі багаты і што ён хаваў свой скарб нейдзе за аўтаром. Аднойчы захрыстыян наважыўся выкрыць той скарб. Ен заўважыў, што айцец парах штовечара ходзіць у царкву і думаў, што гэта робіць толькі дзеля таго, каб палюбавацца сваім скарбам. Захрыстыян залез перад вечарам на царкоўнае падстрэшша, прадраў у столі над аўтаром невялічкую дзірку і пільнаваў, калі парах прыйдзе аглядаць скарб.

Калі сьцямнела, дзьверы ў царкве ціха рыпнулі, айцец наблізіўся да аўтара, зьмяніў кнот у вечнай лямпадцы перад Найсьвяцейшымі Дарамі і, думаючы, што яго ніхто ня бачыць, лёг крыжам перад аўтаром і пачаў шчыра маліцца. Чаго-якчаго, але гэткага відовішча захрыстыян ніяк не спадзяваўся. Парах сапраўды адараваў скарб, найбольшы ў сьвеце скарб, толькі гэта ня было золата, але Эўхарыстычны Хрыстос.

У захрыстыяна моцна заварушылася сумленьне, ён хутка зьлез з гары, прыбег перад дзьверы сьвятыні і чакаў айца. Калі той паказаўся ў дзьверах, захрыстыян кінуўся перад ім на калені, расказаў, што бачыў і прасіў прабачэньня. Ён знайшоў неімаверна большы скарб, як спадзяваўся.

## ЗНАЙШОЎ ПРАЎДУ

У 1867 г. было заснавалася ў Лёндане аб'еднаньне няверуючых вучоных. Кожны з сяброў аб'еднаньня выбраў сабе па адной з догмаў каталіцкае веры, каб яе абвергнуць навуковым спосабам. Старшыня аб'еднаньня лёрд Брайтон выбраў сабе ўваскрасеньне Хрыста. Тры гады ён дакладна студыяваў сваю тэму і ўканцы 3-V-1870 г. склікаў сход аб'еднаньня, каб падзяліцца з сябрамі вынікамі сваіх досьледаў. Але якое-ж было зьдзіўленьне прысутных, калі яны з вуснаў старшыні пачулі такое прызнаньне: «Спадары, найбольш гарачым жаданьнем майго жыцьця было служыць праўдзе і толькі праўдзе. Цяпер вось я стаю перад вамі, каб аддаць чэсьць праўдзе. Мая прамова буде кароткаю, бо яна ўся будзе зводзіцца да таго, каб вам заявіць, што я тры гады напружана працаваў, каб перамагчы веру ва ўваскрасеньне Хрыста, але яно мяне перамагло. Мае досьледы паказалі мне, што адчынены гроб Ісуса ў Ерузаліме вядзе дарогаю простаю як страла ў Рым да сьв. Пятра. Я пастанавіў стацца католікам».

## ЗА ПРЫКЛАДАМ ХРЫСТА

Ведамы нямецкі дзеяч у галіне зямельнае рэформы Адольф Дамашкэ (1865-1935) аднойчы на зборцы казаў: «Біблія — гэта кніга не для тых, што зьняверліва зьвешваюць галаву. У ёй апісаны сотні людзей, якія былі наважыліся змагацца. Сам Хрыстос быў найадважнейшым і наймацнейшым між Божымі пасланцамі. Ён быў у цэнтры змаганьня. Напасьнікі пасягалі на Яго галаву. Праціўнікі плянавалі Ягоную сьмерць, але Ён непахісна йшоў уперад. Такімі павінны быць і мы. Божыя дзеці йдуць куды трэба, заўсёды на спатканьне будучыні. Іхны кліч гучыць нязьменна: «Наперад з Богам!» Яны сьведамыя, што будучыня няпэўная і поўная таёмнасьці, але гэта іх не палохае. Калі з Божае волі нас чакае цяжкая будучыня, дык усёроўна мы ня можам быць баязьлівымі. Цяпер змаганьне таму сталася цяжкае, што хрысьціяне гаварылі шмат аб пакоры, але замала аб адвазе, тады калі яны абедзьве аднолькава патрэбныя. Да сапраўднае адвагі належыць, каб спадзявацца не на самога сябе, але на Бога. За сябе мы мала абстойваем, але за Божае Валадарства вельмі шмат. За гэтае Валадарства мы гатовы йсьці ў агонь».

## КРЫНІЦА СІЛЫ І ВЫТРЫВАЛАСЬЦІ

На францускім абтоку Мартыніка, ведамым са свайго нездаровага трапікальнага клімату, ёсьць ссыльная француская калёнія, а ў ёй больніца заразных хваробаў, заўсёды перапоўненая да апошняга закутка. Больніцу вядуць каталіцкія манашкі. Аднаго дня адведваў больніцу якісьці высокапастаўлены госьць. Пабыўшы некалькі хвілін у цяжкім затхлым паветры, якое запаўняе ўвесь будынак больніцы, госьць зьвярнуўся да аднае з манахіняў: «І вы тут жывяце дзень і ноч у гэтай зачумленай атмасфэры?! Якія сродкі вы ўжываеце, каб вытрымаць у гэтым смуродзе?

Манахіня, ня кажучы ні слова, выняла з-за нагрудніка Укрыжаваньне, набажна пацалавала яго і паказала госьцю. Гэта быў вымоўны адказ.

## ПЯКУЧАЯ ПАТРЭБА

Францускі шырокаведамы каталіцкі пісьменьнік Фрыдрых Озанам (1813-1853) калісьці пісаў да сваіх маладых прыяцелёў: «Вера і любоў першых хрысьціян — гэта не зашмат для нашага веку! Ці-ж мы ў асяродзьдзі сапсаванага сьвету і расхістанага грамадзтва ня сталіся падобнымі да хрысьціян з першых вякоў? Глянсьма на той сьвет, які нас акружае! Ці сёньнешнія багачы і сытыя лепшыя ад тых, што калісьці ў атэнскім арэопагу насьмешліва казалі ап. Паўлу: «Паслухаем цябе аб гэтым іншым разам» (Дзеян. Ап. XVII, 32). А бедныя і народ, ці яны сёньня больш асьвечаныя і маюць большы дабрабыт, як тыя, між якіх працаваў апостал? Аднолькавае зло вымагае аднолькавых лекаў. Зямля сталася халоднаю і гэта каталікі мусяць распаліць патухшы жыцьцёвы агонь».

**«Лісты да маладых каталікоў».**